Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 — 6. (Wilenska 12. m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3

Падпіска на адзін месяц з дастаукай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

Выходзіць два разы ў тыдзень.

№. 20 (33). Вільня, Серада, 10-га сакавіка 1926 г. Год II.



## Новыя пэрспэктывы.

Палажэньне Польшчы робіцца чуць-што ня з кожным днём усё цяжэйшым. Эканамічны крызіс ідзе ўсё шырэй і глыбей. Лічба безработных павялічваецца. Рэдукцыя бюджэту і „ашчаднасьці“ пагражаюць павялічэньнем кадраў безработнае інтэлігенцыі. Міжнароднае становішча гаспадарства значна пагоршала, раўнуючы да першага—„мядовага“ месяца француска-польскага супружства.....

Вось вынік сямілетняга гаспадараньня *польскае буржуазіі* ў уваскросшай з мертвых Польскай „дэмакратычнай“ рэспубліцы.

Як і ў-ва ўсіх іншых „дэмакратычных“ рэспубліках нашых часоў, так і ў Польшчы пануючая буржуазія толькі спрытна прыкрывае свае панаваньне, сваё кіраўнічае становішча ў дзяржаве „ўсенароднай“ воляй — „дэмакратызмам“, хаця іменна „дэмос“, іменна народныя масы, ад імя якіх пануе непадзельна буржуазія, пазбаўлены зусім магчымасьці выяўленьня сваей волі.—І вось, пазнаўшы на сваіх плечах за сем гадоў дзяржаўнае незалежнасьці Польшчы, што прадстаўляе сабой сучасны „дэмакратызм“, польскія працоўныя масы мест і вёсак пачынаюць усё больш крытычна ўзірацца на створаны для іх у „вольнай“ і „незалежнай“ Айчызьне „радзімай“ буржуазіяй „рай“.

Прабуджэньне працоўных масаў Польшчы, іх крытыцызм да істнуючых парадкаў і імкненьне да зьмены іх—усе гэтыя зьявішчы вельмі палохаюць польскую буржуазію. На гэтым груньце буйны прамысловы капітал зрабіў быў навет крок, проці якога так страшэнна абурылася польская зямельная буржуазія: каб не дапусьціць да аб'яднаньня працоўных мест з працоўнымі вёсак, прадстаўнікі польскае мястовае буржуазіі надумалі кінуць сялянам нейкія крошкі з панскага стала, ды гэтак хоць на мамэнт супакоіць іх, адцягнуць ад агульнага руху працоўных. Дзеля гэтага і правялі праз Сойм так-званую „зямельную рэформу“, якая, хоць вясковай беднаце не даець нічога, усё-ж прыкра зачапляе паноў-абшарнікаў, нарушаючы „сьвятое“ права прыватнае ўласнасьці шляхам увядзеньня прымусу пры парцэляцыі панскіх двароў, хоць і за добрую плату.

Але гэты экспэрымэнт нічога ня даў і нікога не здаволіў: сярод буржуазіі ён выклікаў толькі нязгоду. А іменна ў гэты мамэнт, калі працоўныя падыймаюць галаву, жадаючы працы і хлеба,—іменна ў гэты мамэнт буржуазія адчувае патрэбу ня толькі згоды і еднасьці, але і *ўзмацаваньня сваей улады* над непакорнымі „рабамі“—работнікамі і сялянамі. І вось мы бачым зусім выразнае імкненьне польскае буржуазіі ўсіх гатункаў да здабыцьця ўжо поўнае і нічым непрыкрытае *дыктатуры*: дыктатуры абшарнікаў і капіталістаў у асобе *манарха-караля*.

Вось, чым тлумачыцца той факт, што ў Сойме ўжо стварылася даволі значная манархічная група, у склад якое перад усім увайшла фракцыя „хрысьціянскіх абшарнікаў“.

Трэба думаць, што ў гэтым кірунку — у кірунку стварэньня буржуазнае дыктатуры — пойдзе і кулацка-пястоўская партыя. Ідэя павадыра гэтае партыі Вітаса—гэта *ад'яднаньне дробнае сялянскае буржуазіі* (вясковых багатыроў-кулакоў) *з буйнай зямельнай буржуазіяй*, як „рольнікаў“ наагул. А першым пунктам вітасоўскае ідэалёгіі зьяўляецца імкненьне адарваць рух сялянскі ад руху работніцкага.

Але адначасна з імкненьнем буржуазіі да дыктатарскае ўлады „вышэйшых“ станаў польскага грамадзянства мы бачым значны *рост рэзка процілежнага кірунку* сярод тых сялянскіх партыяў, якія стаяць на *клясавым* становішчы працоўных, цураючыся ідэі аб'яднаньня „дробных рольнікаў“ з буйнымі — абшарнікамі. Тут трэба адзначыць выхад сялянскіх элемэнтаў з партыі „Вызвалене“, якая на выбарах нягодна ашукала і польскае і беларускае сялянства, ды стварэньне з гэтых сэцэсіянераў новых радыкальных групаў, як „Незалежна Партыя Хлопска“ пасла Воевудзкага і нова „Партыя Хлопска“ паслоў Домбскага і Брыля. Вось гэтыя новыя групы пайшлі ці пачынаюцьісьці па новым шляху. Так, палітыка „Н. П. Х.“ у унутраным жыцьці Польшчы грунтуецца на салідарнасьці сялянскага руху з радыкальным работніцкім і на шуканьні паразуменьня з беларусамі і ўкраінцамі, каб гэтак *аб'яднаць усе сілы, нездаволеныя панаваньнем і палітыкай польскай буржуазіі*, і даць апошняй дружны адпор. На гэты шлях нямінуча прымушана будзе ўзыйсьці і група Домбскага і Брыля. Прызнаючы ўсе нацыянальныя дамаганьні беларусаў і ўкраінцаў, гэтыя сялянскія радыкалы заяўляюць выразна ці то аб прызнаньні імі *права на самавызначэньне* гэтых нацыянальнасьцяў (Н. П. Х.), ці то аб *тэрыторыяльнай аутаноміі Заходняе Беларусі і Заходняе Украіны*, што пад Польшчай (апошнія рэзалюцыі групы Домбскага і Брыля). Новае ў гэтых партыяў ня тое, што яны робяць нам гэткія пасулы: аб гэтым гаварылі „вызваленцы“ і пэпэсы, ловячы беларускія галасы на выбарах. Новае ў тым, што і „вызваленцы“ і пэпэсы імкнуцца да таго, каб апанаваць самым беларускія масы і камандаваць імі праз галовы натуральных павадыроў беларускага народу—яго ўласных дзеячоў і партыяў,—пад той час, як новы сялянскі радыкальны рух у Польшчы хоча не запанаваць над нашым сялянствам, а *паразумецца* з ім, як з зусім *з'арганізаванай і сьвядомай сілай*, сілай зусім самастойнай, жадаючы, каб і мы і польскія сяляне йшлі сваім шляхам і кожны асобна, але *білі-бы супольнага ворага разам*. Гэты новы польскі радыкальна-сялянскі рух імкнецца да *дыктатуры працоўных*, заклікаючы да тварэньня новае ўлады ў дзяржаве, ня толькі—„сваіх“—польскіх сялян і работнікаў, але такжа і беларусаў ды ўкраінцаў.

Але ёсьць у гэтым новым руху і яшчэ нешта дужа цікаўнае, аб чым дагэтуль у Польшчы бадай ніводзін паляк і гаварыць не асьмеліваўся. Гэта — зусім новы пагляд на становішча Польшчы ў міжнародавых адносінах.

Дагэтуль у Польшчы непадзельна панаваў пагляд на сваю дзяржаву, як на нешта выключнае, абасобленае ад усяго сьвету, замкнёнае ў сваіх граніцах, па-за якія дзяржаўная думка не магла пераступаць. Але жыцьцё лішне ясна і мо' лішне балюча для ўсяго насяленьня Польшчы паказала, што гэты кітайскі мур, якім Польшча адгарадзілася ад усіх сваіх суседзяў, пагражае ей прост гаспадарчым заняпадам, эканамічнай сьмерцяй. І вось тыя народныя „*нізы*“, якія цяпер пачалі *самастойна* варушыцца і крытычна ўглядацца на палітыку „сваей“ буржуазіі, пачалі сваю самастойную палітыку з перагляду міжнародавага становішча Польшчы. На апошнім сваім паседжаньні група паслоў Домбскага (былага віцэміністра замежных спраў!) і Брыля загаварыла зусім неўспадзеўкі аб... *вялікай фэдэрацыі Штатаў Эўропы*, у якую ўвайшла-бы і Польшча, як адна з складовых частак. А калі прымем пад увагу, што зачатак такой фэдэрацыі ўжо істнуе — ў пастаці Саюзу Сацыялістычных Радавых Рэспублік, калі паставім гэта побач з імкненьнем польскіх сялянскіх радыкалаў да сялянска-работніцкае дыктатуры, якая зьдзейсьнена якраз у СССР,—дык прыдзецца прызнаць, што ў выніку новага сьветапагляду радыкальнага сялянскага руху ў Польшчы можна спадзявацца выяўленьня ў ім „*усходняе орыентацыі*“, рэзка супярэчнае з „заходняй орыентацыяй“ польскае буржуазіі...

Гэтак на нашых вачох у Польшчы адбываецца зусім выразна працэс глыбокае дыфэрэнцыяцыі, ці падзелу грамадзянства на два варожыя сабе ўзаемна абозы, і ў найбліжэйшым часе барацьба паміж буржуазнай і сялянска-работніцкай ідэалёгіяй можа прыняць больш вострыя, чым дагэтуль, формы. Разыграецца-ж яна перад усім на груньце новых выбараў у Сойм і Сэнат, якія ўжо не за гарамі.

Ясна, што ад становішча беларускіх і ўкраінскіх масаў будзе ў значнай меры залежаць вынік гэтае барацьбы. Ясна такжа, што новыя выбары ў польскі Сойм і Сэнат даюць нам ужо шмат больш абаснаваныя спадзяваньні, больш *шырокія пэрспэктывы*, чым папярэднія, калі на выбарых пераважаць польскія радыкальныя групы. А з гэтага вынікае, што мы ўжо загадзя павінны рыхтавацца да новых выбараў, павінны ў самым зародку нішчыць усе спробы баламучаньня нашых сялянскіх масаў, робленыя ў Заходняй Беларусі і „казённымі сацыялістамі“ — пэпэсамі, і пястоўскімі наймітамі, якія пачалі ўжо сваю нягодную працу сярод беларусаў, старэючыся перад усім разьбіваць беларускі нацыянальны рух — шляхам абмаскоўліваньня менш сьвядомых сыноў нашага народу. Мы павінны змагацца з усімі гэтымі баламуцтвамі, з усімі патугамі разарваць жывую сувязь паміж працоўнымі вёскі і працоўнымі места,—ўсё роўна, ці робіцца гэта чужымі, ці „сваімі“. Бо толькі тады, як беларускія працоўныя масы, як сьлед, выясьняць сабе ўтварыўшаеся палажэньне, як зразумеюць, па якім шляху мусяцьісьці, — толькі тады яны дойдуць да свае мэты.

Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаёмаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!

# На раздарожжы.

(*Да справы мейсца Польшчы ў Лізе Народаў*).

### Куды з Лёкарно; праз Бэрлін, ці праз Варшаву?

Польская прэса згодна сцьвярджае, што „надыйшоў мамэнт вялікага гістарычнага значэньня для Польшчы". На распачатым 8 сакавіка ў Жэнэве Агульным Зборы Лігі Народаў будзе практычна вырашана запраўды-ж рашучай вагі пытаньне: ці Польшча астанецца і замацуецца ў ролі таго „філяру" (падпоры) Вэрсальскай Эўропы, якім зрабіла яе Францыя; ці ўжо адслужыла сваё і павінна быць заменена іншымі, больш моцнымі і сталымі падпорамі эўрапэйскага дый сусьветнага ладу?!...

Польшча трэбуе сабе — за ўсе свае заслугі прошлыя і... прышлыя—**роўнага з вялікімі дзяржавамі мейсца ў Лізе** — сталага мейсца ў яе Рады. Суб'ектыўныя матывы і доказы Польшчы—вельмі слушныя.—„Калі хочаце, каб я істнавала такой, як я ёсьць, каб і далей бараніла Вэрсальскую Эўропу і буржуазны лад у сьвеце, пусьцеце мяне адначасна з Нямеччынай у Раду Лігі". Але якраз Рада Лігі з уваходам у яе склад Нямеччыны мае —па думцы нямецкага (а можа і англійскага!) — ураду—абмяжоўваць па-над стан разбудаваныя (—коштам Нямеччыны!) граніцы Польшчы на захадзе... Дык запраўды ж цікавае пытаньне будзе вырашаць гэтая сэсія Лігі: ці прызнае аб'яднаны ў Лізе „сьвет" Польшчу роўнай Нямеччыне вартасьцяй і ці дасьць ёй роўныя з Нямеччынай правы і магчымасьці—бараніць свой вэрсальскі дабытак перад усім ад тэй-жа Нямеччыны?

Калі Польшча будзе прызнана кіраўнікамі буржуазнага сьвету роўнай ім „вялікай вартасьцяй" —так, як яна ёсьць, тады яны пэўна-ж, зробяць яшчэ спробу ратаваць гэту вартасьць усімі даступнымі ім мерамі і—у яе сучасных граніцах, каб яна ў свой чарод ратавала хістаючыся ўжо буржуазны сьвет.. Калі-ж, наадварот, кіруючыя Лігай вялікія дзяржавы маюць ужо даволі клапотаў з некаторымі вэрсальскімі новатворамі, тады—ясна ж—яны скарыстаюць з магчымасьці, паставіўшы рашучую стаўку на Нямеччыну, пры яе помачы ў Лізе пачаць рашучую перабудову Вэрсальскай Эўропы, ня вытрымаўшай спробы часу... Бо толькі цяпер—з уваходам Нямеччыны ў склад Лігі—увойдзе ў сілу Лёкарнскае паразуменьне дзяржаў і пачнецца яго рашучая рэалізацыя. — Дык у Жэнэве і будзе вырашана, кудой паедзе далей Эўропа: праз Бэрлін, ці праз Варшаву?

### Два сьмяротныя ворагі...

Ужо колькі гадоў стаяць адна перад аднэй дзьве сьмяротна варожыя, выключаючыя адна адну сілы, якія, можна сказаць, адны толькі і вядуць запраўдную сусьветную палітыку. Адна з іх —Англія, другая — ССРР. Бой між імі запраўды павінен скончыцца можа і—гібельлю аднэй з іх...

Англія стаіць на чале рыхтуючагася да апошняга бою буржуазнага імпэрыялістычнага сьвету. ССРР станула рашуча на чале сусьветнай арміі працоўных і—тых „ніжэйшых" расаў і народаў, якія вызваляюцца на ўсім сьвеце з-пад улады буржуазных жываедаў-імпэрыялістаў.

Англія, якой больш за ўсіх пагражае гэтае вызваленьне народаў, лепш за другіх зразумела і агульную небясьпеку для буржуазнага сьвету. Зразумела і тое, што ўсе ўнутраныя споркі і сваркі між буржуазнымі дзяржавамі, аб'яднанымі ў Лізе Народаў, гэта—драбніца ў параўнаньні з гэтай найвялікшай для ўсіх іх пагрозай... Англія хоча, каб Ліга Народаў была супольным цэнтрам усяго буржуазнага сьвету—проці кіраўнічага цэнтру вялікай вызваляючайся арміі працоўных—Камінтэрну (за якім стаіць фактычна ўрад ССРР)... Вось, чаму англійская палітыка ўвесь час імкнецца ўзмацаваць Нямеччыну і прыцягнуць яе да рашучае барацьбы з ССРР.

### Нямеччына, ці Польшча?

Чаму-ж Англія так высока цэніць Нямеччыну?

Мы ўсе добра памятаем, як лоўка скарыстала Нямеччына з свайго сярэдняга палажэньня між Заходам і Усходам (ня гледзячы на польскі бар'ер!). У працягу нейкіх 4 гадоў, лічучы ад „Рапальле" (ваенна-гаспадарчы саюз з ССРР), да нашых дзён, Нямеччына, апіраючыся на саюз з ССРР, амаль не цалком вызвалілася з-пад ярма пераможцаў. Навет у Лёкарно Нямеччына не прадала ані свайго саюзьніка, ана—самастойнасьці і незалежнасьці сваей палітыкі. Штрэзэман меў пэўнае права заявіць у апошняй перад выездам у Жэнэву прамове, што „Нямеччына не дапусьціла ў Лёкарно да абмяжаваньня яе свабоднай палітыкі між Заходам і Усходам, ці—між Жэнэвай і Масквой"... І гэта—дзеля таго, што Нямеччына—магутны нацыянальна, эканамічна і палітычна скансалідаваны дзяржаўны арганізм, які мае **магутную апору ў сябе ўнутры** ў сваім народзе і — можа заўсёды **выбіраць:** ці ісьці ёй з Захадам, ці з Усходам?

Польшча мае няменш выгаднае, як Нямеччына, міжнародава-геаграфічнае палажэньне і магла-б таксама ў значнай меры выкарыстаць для свайго ўзмацаваньня сваё стратэгічнае палажэньне між Захадам і Усходам, якія рыхтуюцца да бою,—але...

Але Нямеччына можа быць аднолькава карыснай як для Захаду, так і для Усходу, прадстаўляючы бясспрэчную вартасьць сама па сабе. Што да Польшчы, дык — вось тут справа стаіць трохі інакш.

Ані эканамічнай сілы, ані маральнага духу, ані палітычнага розуму, ані сацыяльнага міру, ані міжнародавага даверыя і пашаны „панская" Польшча, створаная ў сучасным яе відзе Францыяй, за 8 гадоў сабе ня выпрацавала... Ня выпрацавала перад усім таму, што, маючы „вечную" (як кажа француска-польскі саюзны дагавор!) апору **вонках**, польскія кіруючыя палітыкі ніколі **ня шукалі апоры ўнутры** краю—сярод свайго ўласнага народу... Ня шукалі, дык і не знайшлі яе. Не знаходзяць і цяпер, калі яна раптам аказалася патрэбнай, калі зьнікае апора вонкавая...

Ніякай запраўднай вартасьці для „заходняга абозу" Польшча не прадстаўляе, — бо няведама, чаго больш яму з ёй будзе: карысьці, ці клопату?! Так ужо гадоў 5 назад і пісаў даслоўна ведамы францускі публіцыст Жак Бэнвіль... А калі так, калі Польшча толькі шукае і толькі спадзяецца штось **атрымаць** ад Захаду, **не даючы** яму сама нічога, тады ясна-ж яна павінна будзе пасыўна і пакорна здаволіцца ўсім тым, што ёй дадуць у Жэнэве „вялікія"—не ў яе, але ў сваіх уласных інтарэсах...

### Польшча і „усходні абоз".

Але-ж можна запытацца: чаму-ж Польшча, скрыўджаная на Захадзе, ня можа, як Нямеччына, шукаць на яго помсты і пагрозы —на Усходзе?... Чаму яна ня можа, як талстоўскі Дон-Жуан, крыкнуць заходня-буржуазнаму богу: „Паслухай, — калі ты ня споўніш маей малітвы, дык я пайду маліцца—сатане!" Чаму Польшча ня можа хаця-б, як Нямеччына, **пастрашыць** буржуазны сьвет найстрашнейшым для яго чартом — ССРР?! Гэта мо' найбольш цікаўнае з усіх пытаньняў...

Здаецца, Скшыньскі дый яшчэ хтосьці з менш адказных палітыкаў пробавалі... Як упорна паўтарае, ня гледзячы на запярэчаньні Скшыньскага, амэрыканская прэса, польскі прэм'ер штосьці ў родзе гэткай пагрозы „шукаць зьбліжэньня з ССРР" рабіў англійскаму паслу ў Варшаве... Злыя языкі кажуць, што навет перад самым ад'ездам у Жэнэву прэм'ер запрасіў да сябе на размову радавага пасла п. Войкава... Але трэба думаць, што гэта ўсё не падзеець на Чэмбэрлена так, як пагроза Нямеччыны: бо на Захадзе ня вераць у рэальнасьць гэткіх пагрозаў з боку тэй „панскай" буржуазнай Польшчы, якая сама больш, як агня,—больш, як апошняй і ганебнай кабалы ў „вялікіх" на Заходзе!—баіцца гэтага „зьбліжэньня з Усходам... Чаму-ж яна баіцца—так, як можа ніхто на сьвеце, апрача можа яе-ж саюзьніцы Румыніі? Ды вось перад усім таму, што **ня мае апоры ў сваіх працоўных**, у сваіх—пакрыўджаных духоўна, гаспадарча, нацыянальна і ўсяляк — народаў... Дык і ня можа быць горшай небясьпекі для польскіх панаючых вярхоў-паразітаў, як, адыйшоўшы ад **панскага** „культурнага Захаду", апынуцца „галава з галавой", як кажуць французы, з дзяржавай працоўных, з Саюзам Работніцка-Сялянскіх Рэспублік...

---

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Візыта пасла ССРР Войкава ў прэм'ера Скшыньскага.

4 сакавіка прэм. Скшыньскі выехаў у Жэнэву—праз Парыж.

3 сакавіка прэм'ер прыняў радавага пасла п. Войкава, з якім меў доўгую размову...

### Пэпээсы ў мін. Рачкевіча — у справах „Крэсовых".

Старшыня клюбу ППС зьвярнуўся асабіста да мін. Рачкевіча з цэлым радам дамаганьняў. Пэпээсы націскалі на міністра ўнутр. спраў (як-быццам ён што можа зрабіць сам без дазволу эндэцкіх міністраў!) у справе самаўрадаў, трэбавалі ўвядзеньня ў жыцьцё закону аб мовах на „Крэсах", („czekaj tatka latka!"), дамагаліся спыненьня гвалтаў і зьдзекаў паліцыі (як толькі пачалі біць пэпээсаў, дык адразу пачулі, што баліць!), скардзіліся на перашкоды, якія робіць адміністрацыя справаздаўчым пасольскім мітынгам...

Мін. Рачкевіч, ведама-ж, абяцаў, што аб усім даложыць — Палітычнаму Камітэту Міністраў. — Ясна-ж: ці-ж можна, напрыклад, без дазволу Паліт. Каміт. Міністр. загадаць паліцыі, каб ня біла людзей на „Крэсах"?!.

### Нарады прэзыдыуму „Пяста".

У прыватнай кватэры п. Вітаса адбыліся нарады прэзыдыуму клюбу Пяста, на якіх прыняты былі вельмі важныя пастановы—у справе роспуску Сойму і новых выбараў — на падстве новага выбарнага закону.

### Пасол Грынбаум вярнуўся ў „Жыдоўскае Кола".

Пасол Грынбаум, які быў выступіў калісьці з Жыдоўскага Кола ў зьвязку з яго „ўгадовым" нахілам і фліртам з мін. Грабскім і Скшыньскім,—вярнуўся назад у склад Кола, якое ізноў пераходзіць у апазіцыю, а галава „ўгадовага" напрамку скінуты з становішча старшыні кола.

### Прапазіцыя абшарнікаў аб зьмене выбарнага закону.

Клюб „хрысьціянскіх абшарнікаў" (група Строньскага) падаў у Сойм прапазіцыю аб зьмене выбарнага закону ў Сойм і Сэнат. Абшарнікі дамагаюцца зьмяншэньня лічбы пасloў да 320, адпаведна да гэтага—і сэнатараў: стварэньня аднаго выбарнага округу з цэлай Польшчы—з прапарцыянальным падзелам мандатаў толькі між вялікшымі партыямі, з правам тварыць блёкі. Хто дастаў-бы менш 100.000 галасоў, той не рахуецца. Некаторыя рысы абшарніцкай „рэформы" скапіраваны з слаўнай фашыстаўскай „ордынацыі" пана Мусоліні.

### Перамога камянічнікаў у Сойме.

Падтрыманая ў крытычны мамэнт „сацыялістамі" польская буржуазія паказывае яшчэ сваю сілу ў Сойме.—На паседжаньні Сойму 3 сакавіка 141 галасамі проці 119 адкінуты ўсе папраўкі лявіцы, дамагаўшыяся—з прычыны агульнага крызісу і абмяжаваньня пэнсіяў урадоўцаў і працаўнікоў наагул — прыпыненьня на год падвышкі платы дамаўласьнікам за кватэры. Адкінута навет дамаганьне, каб спыніць падвышкі для тых, хто зарабляе ў месяц ня больш, як 80 злотых.

„Бэндзе гожэй", казаў яшчэ прэм'ер Вітас.— Горш усім. толькі дамаўласьнікам павінна быць, што-далей, дык усё лепш.

### Дэманстрацыя безработных у Лодзі.

3 сакавіка перад гмахам ваяводзтва значная таўпа безработнай інтэлігенцыі хацела зрабіць дэманстрацыю. Але паліцыя перашкодзіла ў гэтым. Аднак-жа, дэлегаты ад безработных пайшлі да ваяводы, які заявіў ім, што мае ў касе толькі 10.000 злотых, і парадзіў безработным „пачакаць колькі дзён", бо прыедзе сам „міністар безрабоцьця" пан Зэмэнцкі—дык той, ведама-ж, як пэпээсавец,—усё зробіць...

### Тайныя арышты ў Львове.

3 сакавіка палітычная паліцыя ў Львове зрабіла цэлы рад арыштаў. Арыштаваных трымаюць у асобных камэрах пад моцнай ахранай. Ходзяць чуткі, быццам выкрыта нейкая важная „палітычная афэра"...

### Асаблівая „такса".

Надовячы ваенна-акружны суд у Варшаве разглядаў справу капітана Петрулевіча, які застрэліў бяз дай прычыны двох жыдоў, ехаўшых дыліжансам, за тое, што... вазьніца дыліжансу, абмінаючы вайсковы фургон, у якім сядзеў пан капітан, сьцебануў пугай па будзе фургону. Пан капітан, як ён заявіў на судзе, ня мог сьцярпець такой цяжкай „абразы" вайсковага фургону і заступіўся за „вайсковы гонар",—хаця сьведкі ўвадзін голас паказвалі, што іменна вайсковы фургон наехаў на дыліжанс, і салдаты першыя сьцебанулі вазьніцу дыліжансу.

Як відаць, для паноў вайсковых і паліцыянтаў за забойства людзей устанавілася ўжо такая „такса": два гады дастаў Мурашка, два гады прысудзілі і Петрулевічу.

### Няўдалы напад на цягнік.

На пасажырскі цягнік, які йшоў з Холму ў Ковель, была зроблена спроба нападу. Калі цягнік увайшоў у лес, на яго пасыпаліся камні. Але машыніст пагнаў хутчэй машыну і ўцёк ад бяды.

## Заграніцай.

### Адстаўка габінэту Брыяна.

На паседжаньні францускага парляманту 6-га сакавіка большасьцю 274 галасоў проці 221 адкінуты часткова адзін з фінансавых праектаў ураду. Дзеля таго, што міністра фінансаў падтрымаў сам прэм'ер Брыян, паставіўшы пытаньне аб даверыі парляманту да ўраду (інакш кажучы, пагражаючы адстаўкай, калі праект ня будзе прыняты), адмоўныя вынікі галасаваньня, як знак недаверыя, выклікалі адстаўку габінэту.

Паставіўшы пытаньне аб даверыі ў такі важны для Францыі мамэнт — перад зборам Лігі Народаў, — Брыян хацеў пад „тэрорам замежнай палітыкі" правясьці фінансавыя праекты свайго ўраду, якія ніяк ня могуць прайсьці праз парлямант. Але гэты спрытны манэўр ня ўдаўся, і Брыян сам разам з сваім урадам паляцеў. Правал габінэту вырашаны галасамі сацыялістаў і камуністаў.

Найцікаўней, што той-жа Брыян зьяўляецца ізноў першым кандыдатам на прэм'ера. Усё зроблена як быццам толькі дзеля таго, каб выбіць Брыяна з сядла адно на час—сэсіі Лігі Народаў.

У Варшаве вестка аб упадку Брыяна выклікала папросту паніку.

### Нямецкія ноты пратэсту Польшчы.

У зьвязку з кампаніяй значнай часткі польскай прэсы проці немцаў на груньце справы аб „шпіёнскай арганізацыі" ў Верхн. Сілезіі,—нямецкі ўрад зьвярнуўся да польскага з энэргічным пратэстам проці таго, што польская ўлада, якая ў Сілезіі не шкадуе гвалтаў над нямецкай прэсай, калі тая бароне нямецкае насяленьне ад паклёпаў, — зусім не рэагуе на ўсё тое, што пішуць польскія газэты...

Мы ведаем, што навет сам Карфанты закляйміў правакацыйна - махлярскую кампанію гэтай прэсы...

### Усьцяж вызваляюцца з-пад апекі.

Нямецкі ўрад дабіўся ўжо значных пасьпехаў у барацьбе з абмяжаваньнямі разьвіцьця свайго паветранага флёту. З цэлага раду забаронаў, прадугледжаных Вэрсальскім Трактатам, асталася толькі забарона будовы аэрапляпаў вялікай хуткасьці для аднаго пасажыра і прыладаў да кіданьня бомбаў.

### Адчыненьне веснавога кірмашу ў Лейпцыгу.

Адчыненьне што-годняга знамянітага кірмашу — выстаўкі ў Лейпцыгу (Нямеччына) ператварылася сёлета ў гучную дэманстрацыю гаспадарчага братаньня між Нямеччынай і СССР.

На ўрачыстым абедзе, які выдаў Арганізацыйны камітэт, прэзыдэнт места ў сваей прамове заявіў, што вялікую будучыну мае таварны абмен між Нямеччынай і СССР.

На гэту прамову адказаў пасол СССР Крестінскі, які заявіў, што СССР—гэта найлепшы купец для нямецкіх тавараў, пакуль не адбудуе і не разбудуе сам сваей прамысловасьці — на ўсе патрэбы свайго рынку. Трэба толькі, каб цяпер нямецкая прамысловасьць вяла гандаль з СССР—на падставе доўгасрочных крэдытаў.

### Новыя нямецкія дэманстрацыі ў Чэхіі.

Чэшскія немцы скарысталі ізноў з нагоды, каб зьвярнуць увагу Лігі Народаў на тыя крыўды, якія зроблены ім—далучэньнем чыста нямецкіх абшараў да Чэха-Славакіі. — У Карльсбадзе ўжо другі раз сабраўся вялікі мітынг немцаў, якія быццам зрабілі навет спробы захапіць гмах губэрнатара. Пачалася перастрэлка з паліцыяй. Есьць раненыя, спаміж іх некалькі паліцэйскіх. Разагнаная паліцыяй таўпа рассыпалася па ўсім месьце, дзе пачалася агульная страляніна...

### Прамова Зінов'ева.

На паседжаньні Выканаўчага Камітэту Камінтэрну Зінов'ев зрабіў даклад, які цягнуўся аж 7 гадзін. У дакладзе сваім ён пераглядзеў усе магчымасьці і віды сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі. Галоўныя думкі дакладу гэткія.

1925 год быў годам пэўнага ўзмацаваньня капіталізму. 1926 прыносіць, наадварот, яго новыя хістаньні. Сусьветная рэвалюцыя—неадхільна. Але Камінтэрн, які стаўся ўжо магутнай сусьветнай арганізацыяй, можа сваей тактыкай — або прысьпяшыць, або прыпыніць хуткасьць рэвалюцыйнага працэсу. Прысьпяшыўшы гэты рух, можна спадзявацца рэвалюцыі ў працягу 3—5 гадоў... Інтарэсы кіруючых цяпер сьветам Амэрыкі і Англіі пачалі ўжо разыходзіцца. Работніцкая кляса ў Англіі пачала ўжо хутка рэвалюцыянізавацца. У Амэрыцы гэтага пакуль-што яшчэ няма, але хваробы сучаснага капіталізму зробяць хутка сваё і там. Францыя перажывае ня толькі фінансавы, але і палітычны і сацыяльны крызіс, які можа ў кожны мамэнт ператварыцца ў катастрофу. У Нямеччыне настрой больш рэвалюцыйны, як год назад. На Усходзе Эўропы камуністычны рух робіць вялікія пасьпехі. На Далёкім Усходзе—таксама. Толькі ў Японіі работніцкі рух яшчэ слабы, але і там магчымасьць масавага руху ня выключана.

### Радава-Мангольская ваенная канвэнцыя.

Яшчэ на 10 гадоў прадоўжана ваенная канвэнцыя між Манголіяй і СССР, якая дае фактычны ваенны пратэктарат СССР над усей Манголіяй. Для абароны граніц Манголіі створана мангольска-расейская рада пад старшынствам радавага генарала Тухачэўскага.

Наскольні важны гэты пасьпех радавай палітыкі ў Азіі, відаць з таго, што калісьці ў царскія часы спроба замацаваць расейскія ўплывы ў Манголіі выклікалі з боку Англіі—пагрозу вайной...

### Узнаўленьне наступленьня Абд-Эль-Крыма ў Марокко.

Пачаўшаеся ізноў наступленьне Абд-Эль-Крыма, які лічыўся ўжо паводле афіцыяльных камунікатаў, амаль не разьбітым дашчэнту, выклікае цяжкае расчараваньне ў францускім грамадзянстве. Газэты сьцьвярджаюць, што пачын (ініцыятыва) ваеннай акцыі на ўсім прасторы вялізарнага краю — цалком у руках Крыма, што вельмі важна ў такой вайне.

### Дабравольцы з СССР на падмогу Абд-Эль Крыму.

Радавая прэса піша, што Ваенна-Рэвалюцыйная Рада даручыла камандзірам ваенных акругоў зрабіць сьпіскі афіцэраў, жадаючых паехаць дабравольцамі ў армію Абд-Эль Крыма.

### Урадавы крызіс у Нарвэгіі.

Нарвэжскі ўрад выйшаў у адстаўку. Кароль, прыняўшы адстаўку, даручыў стварыць габінэт сусьветна ведамаму дзеячу Нансэну, між іншым вялікаму прыхільніку СССР.

Фрытьёф Нансэн уславіўся сьпярша, — як дасьледчык палярных краёў, а ў нашы часы, як арганізатар дабрачынных установаў у шырокім маштабе, паміж іншым у СССР.

### Крытычнае палажэньне народных арміяў у Кітаі.

Паводле вестак японскага агенцтва, палажэньне народных арміяў у Кітаі—вельмі цяжкое. Народным арміям перад усім пагражае разгромам—недахват аружжа і наагул ваенных прыладаў...

### Па прыкладу Эўропы.

Між Чылі і Пэру (ў Паўдзённай Амэрыцы — невялікія дзяржавы) выбухнуў гранічны аружны канфлікт. Шмат раненых.

## ХРОНІКА.

**Агульны сход Сяброў Беларускага Каапэратыўнага Банку ў Вільні.** 7. III. 26 г. ў памяшчэньні Беларускага Каапэр. Банку адбыўся агульны сход сяброў яго.

На сход зьявіліся 31 сябры Банку, спасярод якіх паважную частку складалі сяляне, прыехаўшыя з правінцыі. — Сход адчыніў старшыня Нагляднай Рады Банку пасол Рак-Міхайлоўскі, зьвярнуўшы ўвагу на вялікае значэньне Беларускага Банку, асабліва ў гэты мамэнт крызісу, што пацьвярджаецца тым зацікаўленьнем, якое выявілі сяляне, запісваючыся ў сябры Банку.

Пасьля выбараў старшыні сходу, на якога выбралі п. А. Трэпку, — Наглядная Рада зрабіла агульную, а Управа Банку—фінансавую справаздачу, падрабязнасьці і цыфры грашавых абаротаў дамо ў чарговым нумары.

Потым, пасьля зацьверджаньня бюджэту на 1926 г., адбыліся выбары двох сяброў Нагляднае Рады на месца выбыўшых па жэрабю п. п. А. Трэпкі і Ул. Лукашэвіча. Агульны сход ізноў абраў п. п. Трэпку і Лукашэвіча сябрамі Рады. Таксама дабралі кандыдата ў Наглядную Раду — гр. К. Крука.

Перад зачыненьнем сходу сяляне падчырківалі неабходнасьць Беларускага Банку, якая адчуваецца на вёсцы, і зьвярнулі ўвагу на тую карысьць, якую ўжо мае вёска з свайго Банку, маючы магчымасьць у трудную хвіліну пазычыць патрэбны грош.

Запрапанаваная адным з сялян прапазыка, выражаючая падзяку арганізатарам Банку за іх дбайнасьць і працу на карысьць гаротнага селяніна-беларуса, была прынята аднагалосна. Сход зачынілі, сяляне разышліся з верaю, што ў каапэрацыі—сіла!

**Бюлетэнь Бел. Сял.-Раб. Грамады.** На гэтым тыдні выйдзе з друку і будзе разасланы падпішчыкам „Беларускае Нівы“ № 7 Бюлетэню Соймавага Клюбу Беларускае Сялянска Работніцкае Грамады.

**Да справы нападу на вучыцеля Мілюка.** Як нас дадаткова інфармуюць з Баранавіцкага павету — у карэспандэнцыі, зьмешчанай у адным з папярэдніх №№ нашае газэты, у справе нападу на вучыцеля-беларуса Мілюка з боку паляваўшай на землях Мілюка шляхты і іхніх лясьнікоў, закралася памылка. У пабоях, нанесеных Адаму Мілюку, прыймалі беспасрэднае і актыўнае ўчасьце два лясьнікі Гурэцкі і Місюкевіч Пётра (а не Сьцяпан, як было надрукавана). Што-ж датычыць лясьніка Мятэльскага, дык ён хоць і належаў да тэй кампаніі, але беспасрэднага ўчасьця ў біцьці ня прыймаў; ён стаяў побач, пад'юджаваючы Гурэцкага і Місюкевіча, і трымаў стрэльбы.

**Паводка ў Вільні і пад Вільняй.** 4 сакавіка ў Вільні і пад Вільняй неўспадзеўкі пачала прыбываць вада ў Вяльлі і заліваць берагі. Заліты вуліцы на прадмесьці Салтанішкі, дзе ўтанула адна старая кабеціна, ня здолеўшы выйсьці з хаты, ды на Зьвярынцы, а такжа ў павіленскіх ваколіцах Панары і Янкоўшчына.

У апошнія дні вада пачала спадаць.

**Афіцыяльны курс грошы на 9 сакавіка.** Даляр — 7 зл. 58 гр. Залаты рубель — 3 зл. 89 грошы.

Гэтым падаем да ведама паважаных чытачоў і падпішчыкаў „Беларускае Нівы“:

Прысылаючы карэспандэнцыі, трэба апроч псэўданіму падаваць свой адрас і праўдзівае прозьвішча — выключна для ведама рэдакцыі, бо йнакш карэспандэнцыі да друку ня пойдуць.

Спраўкі аб неатрымліваньні газэты трэба рабіць гэтак: „рэклямацыі“ пішуцца на **адным баку** паперы, напісаная папера ломіцца на тры часткі і гэтак пасылаецца не заклейваючы і без канвэрту, бо йнакш адміністрацыя газэты павінна плаціць за Вашы „Reklamacji“ па 30 гр., што наводзіць нас на лішнія страты.

Юрыдычныя парады просім слаць у лістох аплачаных. Даем парады для падпішчыкаў дарма, а прымушаць нас плаціць за парады, дадзеныя вам, ды за прысланыя „рэклямацыі“ па 30 гр. для рэдакцыі не пад сілу, а для Вас сорамна.

**Неаплачаных лістоў** і няправільна напісаных „рэклямацыяў“ больш **прымаць ня будзем.**

## Пісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаны Пане Рэдактар!*

Не адмоўце зьмясьціць у Вашай газэце ніжэйпаданыя словы:

З 7-га на 8./XII. 1925 г. я быў арыштаваны польскай палітычнай паліцыяй, дзякуючы ілжываму даносу і правакацыі самой-жа паліцыі. Пасьля доўгіх мук у пакоях паліт. паліцыі (вярняей інквізіцыі!) я быў адпраўлены на „Лукішкі“.

Вось, пасьля арышту мяне, у польскай эндэцкай газэце (Dz. Wil.) зьявіліся заметкі адносна да яго. Паміж іншым пісалася, што я належаў да камуністычнае партыі Зах. Беларусі, закладаў на вёсках камуністычныя бібліятэкі і г. д. Дык-жа гэта ўсё—няпраўда. Відаць, пан рэдактар дзержыцца таго погляду ў адносінах да беларусаў, што „białorusinów niema“, а „jeżeli białorusin—to bolszewik“...

Так, я закладаў бібліятэкі, толькі не камуністычныя, а беларускія, вясковыя, каб даць магчымасьць сялянам пазнаёміцца лепш з гаспадаркай, і кнігі былі там выпушчаны з пад рукі польскае цэнзуры.

Было яшчэ напісана ў гэтай газэце, што я закладаў бібліятэкі ад імені „Просьвета“. І ў адказ „Dz. Wil.“, як-бы нічога ня знаючы і ня ведаючы, „Грамадз. Голас“ (цяпер „Белар. Слова“—польскі орган у беларускай мове), адказаў, што яны такім глупствам (закладаньнем вясковых бібліятэк) не займаюцца. Вось-жа катэгарычна заяўляю, што я з часовымі і ім падобнымі „ужэндовымі“ радамі ня меў нічога супольнага і, як беларус, не хачу й гаварыць са здрайцамі майго народу, якіх гісторыя ўжо запісала чорнымі літэрамі.

Пратэстую так-жа проці заявы „доктара“ Паўлюкевіча, які піша на былога нашага вучыцеля паважанага Антона Луцкевіча, што нібы-то ён уцягівае беларускіх вучняў у палітычную працу. А ўсім тым, хто пад відам „камунізму“ хоча здушыць беларускі рух, — адкажу славамі нашага прарока—песьняра: „Не пагасіць вам праўды яснай, — жыў беларус і будзе жыць“! У тым, што беларусоў душаць, доказ таго, што яны жывуць!...

З паважаньнем: вуч. Віл. Бел. Гімназіі
**Юльян Саковіч.**

P. S. Я сам чуў словы студэнта (ведама, сышчыка): „My was wszystkich wydusimy!“ і адчуваў гэтае душэньне на сваім целе.

## Чаму гэта так?

(Пісьмо з Ваўкавыскага павету).

Ад часу выбараў у Польскі Сойм, ад мамэнту вялікае вагі і значэньня ў адраджэньні беларускай вёскі, калі на арэну барацьбы за інтарэсы свайго народу выступілі добрыя працаўнікі беларусы, — нацыянальная сьвядомасьць у нашым закуцьці значна пашырылася.

Слух аб карыснасьці беларускіх паслоў нас ня мінае, аднак, бачыць змагароў за Бацькаўшчыну мы пазбаўлены магчымасьці. Рэч натуральная. Наша мяйсцовасьць ляжыць у надта нязручным кірунку, што і перашкаджае ім зьявіцца.

Ужо неяк апошнім часам усю нашу ваколіцу абняла вестка, быццам у мястэчка Падароск, па нейкім царкоўным справам, прыяжджаў сэнатар Багданввіч. Я вельмі шкадую, што ня здарылася пабачыць. Будучы заінтэрасаваным я ўсё-ж-такі схадзіў да Падароска. Зайшоўшы да аднаго з сваіх знаёмых, шчырага патрыёта, ня губячы часу, пытаюся: Што сэнатар Багдановіч пабываў у вас?..

— Так,—кажа,—быў...

— Ну, як чалавек?

— Нічога: цікавы, просты, прыхільны да народу... Словам, усімі манерамі падобны да беларуса... але...

Затрымаўся мой знаёмы. Кажы не перарывай!—настойчыва сказаў я.

— **Гаварыў парасейску!** Нешта сумліўнае ў гэтым чалавеку... Я дэтальна сачу за сучаснымі падзеямі, дык добра прыкмеціў, што ён ёсьць у нейкай прыязьні з кучкай расейскіх эмігрантаў, адрокшыхся свае бацькаўшчыны, — нат' выступае ў „Русском доме“ ў Варшаве...

— Што-ж: вучоны, інтэлігент... запярэчыў я.

— Калі вучоны, дык **павінен абагачаць беларускую культуру**; сеяць добрае зерне на родным полі. Замест таго, каб чытаць лекцыі ў „Русском доме“, павінен гэта рабіць у беларускіх культурных установах...

Далей я не пярэчыў свайму прыяцелю; выслухаўшы ўсё да мала і падзякаваўшы, разьвітаўся.

У будучыне просім паважаных паслоў не пакідаць нас на ласку лёсу, а даведацца і паправіць абмылку, якая зрабіла вялікае ўражаньне...

Мы не байкатуем пана Багдановіча, а слушна клічам яго да працы на ніве беларускай культуры — для дабра нашага народу!.. **Ш.**

## З жыцьця Горадні.

× **Сьмерць у вастрозе.** 16-га лютага 1926 года памёр вязень Радкевіч Афанасі, які засуджаны на 6 гадоў катаргі з арт. 108 К. К. Прасядзеў ужо 4 гады.

**Арышт.** 20-га лютага пасьля пасольскага мітынгу паліцыя заарыштавала грам. Кузьніцкага Г.

× **Павялічэньня безрабоцьця.** За студзень 1926 год зарэгістравана ў Бюро безработных 1814 чал. — у той час, калі ў сьнежні 1925 г. было зарэгістравана 1114 чалавек.

Вось цыфры зарэгістраваных безработных за 1925 год, з якіх відаць, як расьце безрабоцьце ў м. Горадні:

Студзень 1925 г.,—532 чал., люты — 650 чал., сакавік—487 чал., красавік—510 чал., Травень — 661 чал., чэрвень—619 чал., ліпень—473 чал., жнівень—236 чал., верасень—454 чал., кастрычнік — 529 чал., лістапад—874 чал., сьнежань—1114 чалавек.

× **Зьдзекі над арыштаваным.** 14-га студзеня 1926 г. быў арыштаваны работнік тытуновай фабрыкі ў Горадні і сэкрэтар Белар. Дабрачыннага Т-ва ў Горадні Сяргей Ражкоўскі. Калі Ражкоўскі сядзеў у

„ўжэндзе сьледчым“ у Горадні і быў вызваны там-жа на дапрос, дык вывядоўца Ібэль, вядомы ў Горадні, і яшчэ два вывядоўцы скавалі Ражкоўскаму рукі, усунулі кій паміж нагамі і гэтак палажылі яго на падлогу, на галаву накінулі кажух і пачалі якімсьці кіём біць у пяты. Гэтак білі тры разы з перарывамі і пад час перарываў усё гаварылі, каб прызнаўся, што належыць да камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.

Ражкоўскі пасьля такога „грунтоўнага баданьня“ абамлеў. Гэны малады хлапец (25 гадоў), ні ў чым ня вінаваты, пасьля гэтакага баданьня быў 25 студзеня 1926 г. звольнены сьледчым з вастрогу і, хаця ўжо на свабодзе, але-ж яшчэ цяпер скардзіцца на боль ў нагох. Дык запраўды эпоха!

**Нёман.**

# Карэспандэнцыі.

## Суд за беларускую школу.

(Са Слонімшчыны).

17. II. адбыўся суд над вучыцелем Чамерскай прыватнай бел. шк. М. Бурсэвічам. Судзіў судзьдзя III вокр. ў Слоніме N. Вызывалася 11 сьведак. Абвіняў „сам судзьдзя!“ бо з боку абвініцеляў, а ні ад школьных ўладаў, а ні ад адміністрацыйных—абвініцеля ня было. Бараніўся абвінавачаны сам на падставе розных канстытуцыяў, якія даюць беларусам права вучыцца ў роднай мове, розных міравых умоваў, якія не падлягаюць зьменам, аднак, на падставе 138-га арт. К. К., які зьмяняе і канстытуцыі і розныя ўмовы — Бурсэвіча ўсё-ж найшоў судзьдзя віноўным і пакараў: 50 злот. кары, або 7 дзён турмы і 5 зл. судовых коштаў. Бурсэвіч складае апэляцыю ў Акружны суд.

**Чупрыновіч.**

## Беларускае гуляньне ў Клецку.

(Нясьвіжскі павет).

У гэтым 26 годзе я меў шчасьце аж 2 разы пабыць на беларускіх вечарынах у Клецку. Першая вечарына была 2-га студня, а другая—14-га лютага. За абодва разы я, можна сказаць, пацешыўся ў волю і адпачыў душой і сэрцам.

Ставілі 14/II „Міхалку“ і „Зьбянтэжаны Саўка“. Артыстамі былі нашы дзеці: вучні і вучаніцы старэйшых клясаў Беларускае Гімназіі. Выпаўнілі ўсё надта спрытна. Дэклямавалі вершы Я. Коласа. Пасьля на сцэне запяяў хор беларускія песьні. Усе пеўчыя былі ў нашых нацыянальных вопратках.

Гэтыя песьні так хапалі за душу і так падабаліся госьцям, што іх прыходзілася паўтараць.

Саля была прыбрана добра. На гэты раз навет сьвяціла электрыка. Была тут прыладжана вудка, кіоск, почта і другія забавы, а ў канцы вечарыны скокі. Апрача навамодных танцаў, найбольш брала верх беларуская Лявоніха і Вычок. Музыка была вясковая, дамарослая, з вёскі Цікалаўшчыны. Ігралі тры скрыпкі, карнэт, клярнэт і аркестравы бубен. Трэба аддаць справядлівасьць і шчырую падзяку гэтаму аркестру: іграў ня горш гарадзкіх. Дзіву даешся, адкуль яны навучыліся так удала йграць навет і самыя модныя, новыя танцы.

Нейкі прыкры, горкі жаль агорне душу й сэрца, калі падумаеш, што ў нас не памагаюць разьвівацца, а наадварот,—забіваюць гэтыя вялікія, здольныя прыродныя беларускія сілы, беларускую культуру і навуку.

Каму-ж гэта шкодзіць?!

Трэба ўсяму грамадзянству, як мага, падтрымоўваць усімі сіламі нашу беларускую асьвету-культуру, бо гэта шлях да лепшага жыцьця і шчасьця, а бяз гэтага мы паміраем.

Шчыра і горача дзякую ўсім, хто бярэ ўдзел у нашых вечарынах, і з прагавітасьцяй чакаю м-ца траўня, калі ізноў нас пацешыць Клецкая беларуская гімназія сваею вечарынаю.

**„Госьць з-пад Клецку“.**

## Водгукі 1920 году.

(З Баранавіцкага пав.).

З вёскі Куртыновічы, Мядзьведзіцкай гміны, Баран. павету былі заарыштаваны ў 1921 годзе сяляне Янка Татарыновіч, Янка Жыжа, Янка Шпак, Тамаш Татарыновіч, Мацей Жыжа, Іван Жыжа і Адам Жыжа нібы за забойства ў 1920 г. —у часе польска-бальшавіцкай вайны—ні то жаўнера польскага ні то паліцэйскага. Па суду ў Горадні яны былі пакараны на 5 гадоў турмы. Трое апошніх з вышэй пералічаных памерлі ў турме, а чатыры—ужо па адбыцьці кары—вярнуліся нядаўна на гаспадарку таксама з надарваным здароўем.

## У бядзе забытыя.

(в. Юравічы, Палапэцкай гм. Баран. п.).

З усіх куткоў нашае Бацькаўшчыны, якая апынулася ў межах „дэмакратычнай“ Польшчы, ідуць скаргі да нашае роднае „Беларускае Нівы“ на дрэннае нашае жыцьцё. А вось у нас што:

Дарогі ў нас дрэнныя (правім самі). Мастоў няма, а калі і ёсьць які, то праяжджаючы праз яго, селянін здымае шапку і моліцца, за сябе і каня, каб ня скруцілі шыі. А падаткі плацім за ўсе і за масты!

Калі цяпер над нашай вёскай страслося вялікае гора, калі мы мром, як мухі, ад шкарлятыны і водры, дык цяпер аб нас забыліся. Праўда, гміна прывязла нейкага пана з Баранавіч, які зрабіў некалькі ўколаў здаровым, а калі папрасілі гэтага пана, каб ён зайшоў паглядзець хворых, дык гэны пан наадрэз адмовіўся. І няма каму лячыць нас! Уперш былі хвэршалы, дык яны лячылі, а цяпер забаранілі ім лячыць. І ось, калі гэтага хвэршала ўпросіш прыехаць да хворага, дык ён злупіць, што называецца, каб было і за фатыгу, дый адплаціцца, калі яго „зловяць“. І аддаем ім апошнія пудзікі, што ўцалелі ад падаткаў. А дзеткі нашы мруць ды мруць, як мухі ў восень, і спасеньня чакаць няма адкуль.

**Сьляза Юраўца.**

## Пэпэсаўская зараза.

(Бяліца, Лідзкага пав.).

Ужо й да нас пачалі налазіць пэпэсаўцы, бы тая зараза, што лезе ня пытаючыся. Так, вазьму факт, для прыкладу; 24./II. на кірмаш у Бяліцу прыехаў асаблівы гандляр з Лунінца—гандляр палітычны і маральны. Прывёз ён з сабой прадаваць „чырвоны штандар“. Гэта быў агент Пэ-Пэ Эсаў (польскія казённыя сацыялісты).

Паслухайма, як ён таргаваў.

— Towarzysze, kupujcie czerwony sztandar! (таварышы, купляйце „чырвоны сьцяг)—заклікае гандляр.

Падыходзіць селянін і пытаецца: „Пакажы, дзе той чырвоны сторож“?

Другі селянін перабівае, разьясьняючы першаму: „Гэта ня сторож, а штандар (папольску), пабеларуску значыць сьцяг“.

А пасьля дадае: І фактычна чорт яго зразумее, што ён кажа;—прыехаў сюды з польскімі „штандарамі“—і чаго?—хіба заблудзіўся. Ня трэба нам польскіх штандараў, як трэба будзе, то зробім свой беларускі сьцяг! Калісь ашукалі нас Вызваленцы, а цяпер хочуць ашукаць пэпэсы“!..

— Pepeesy nie oszukują,—to kłamstwo! — абразіўся агент.

— Э-гэ-гэ—зарагаталі сяляне — не ашукваюць!..

— А хто абяцаў нам зямлю, а аддаў нашую-ж зямлю польскім асаднікам?! А хто абяцаў нам родную школу, а цяпер ня толькі не далі яе нам, але навет і гэты „штандар“ пішаце нам парасейску? Ці-ж не пэпэсы?—запытаўся адзін з сялян.

— Dlatego, że uczyli was porosyjsku, a popolsku jeszcze nie umiecie!—(таму, што вас вучылі парасейску, а папольску яшчэ ня ўмееце)—паясьніў агент пэпэсаў.

— О-го-го—загудзелі сяляне,—які ён добры ды разумны!..

— Ідзеце вы з сваёю дабратою туды, у сваю Польшчу, адкуль прыйшлі. Як вас мы ня знalі, то шчасьлівейшыя былі. А цяпер вы, пабратаўшыся з эндэкамі, абложылі нас такімі падаткамі, што—вось мусім апошнюю сарочку прадаваць, каб заплаціць іх!..

— Няма для вас веры!— адазваўся адзін з грамады.

Пасьля гэтага сяляне разыйшліся, а пэпэсавец злажыў свае „штандары“ і „не солоно хлебавши“ кудысьці паехаў.

Жэньце, браточкі-беларусы, адусюль гэтых пэпэсаўцаў—ашуканцаў, душапрадаўцаў, здраднікаў сялянска-работніцкай справы,—жэньце!..

**Бяліцкі.**

## Крыўда.

(В: Вялілае Сяло з пад Маладэчна).

Сваімі ўласнымі мазалістымі рукамі пабудавалі мы школу,—і ясна — найбольшыя правы маем на яе, толькі не падпольшчай!..

Падалі мы аж на 70 дзяцей дэклярацыі інспэктару, дамагаючыся беларускай школы. Верылі, што дадуць,—але ня тут тое было! Засталася польская, як была й раней. Вучацца там польскія дзеці розных урадоўцаў ды чыгуншчыкаў, а нашы — сабакаў б'юць. Двое-трое ходзяць беларускіх дзетак, дый тых толькі імкнуцца спольшчыць-скаталічыць. Так у ведамасьцях праваслаўнага 10-цёх гадовага хлапца Уладзіміра Шырка ў рубрыцы „вызнаньне“—напісана „рымска-каталіцкае“. Ня пытаючыся, перахрышчваюць! Вось дык школа, якая яе мэта?

**Свой—Тутэйшы.**

## Пачуцьцё Беларуса.

(Калён. Гэйсішкі, Вялейскага пав.).

У № 11 „Беларускае Нівы“ прачытаў я стацьцю пад загалоўкам „Радасная праява“, і аж сьлёзы ў мяне выступілі на вачох ад радасьці, — што беларуская моладзь разумее патрэбу роднае кніжкі — складаецца і выпісвае з Вільні, імкнучыся да сьвятла.

А ў нас моладзь,—дык ня тое. Замест каб кніжкі выпісаць, дык п'янствуе. А скажы што, то дастанеш, што не панясеш! Дзякаваць Богу, што нямнога ў нас гэтых „Мікалаеўскіх“ малайцоў,—малодшыя разумнейшыя і цягнуцца да сьвятла.

Гэтак, браткі, гэтак; бо — „такая прынука, як школа й навука, ці-ж зможа нам сіл не дадаці“?..

**С—.**

# Юрыдычныя парады.

### Грам. С. М.

*Запытаньне*: Зямля куплена ў 1922 г. і заплачана па ўмове палавіна грошы, а другую палавіну, згодна з напісаным у ўмове, павінны заплаціць пры купчай. Купчай пан яшчэ не зрабіў і цяпер вымагае ад нас грошы ўжо надта вялікія. Зямлёю карыстаемся мы з таго часу, як заплацілі першую палову грошы, але падаткаў мы ня плацім. Ці можа пан адабраць ад нас зямлю, або садраць грошы, якія ён захоча?

*Адказ*: Калі ўмову маеце на руках, то падавайце ў Акружны Суд, каб прызнаў Вам зямлю на ўласнасьць. Трэба толькі атрымаць дазвол ад Земскага Ураду. Пан зямлі адабраць ня можа, можа толькі спаганяць недаплачаныя грошы.

### Грам. Е. Ш—о.

Калі прымак завяшчаньня бацькі ў Акружны Суд на зацьверджаньне на падаваў, то маеце права на бацькаўскую палову: вы з братам разам на $^{13}/_{14}$ часьці пароўні, а прымака на $^{1}/_{14}$ часьць.

### Прыехаўшаму.

Тэстамант трэба ў працягу аднаго году ад сьмерці цесьця падаць у Акружны Суд на зацьверджаньне; адабраць таго, што запісана, ніхто ня можа. Калі цёшча не дапусьціць да будоўлі і гаспадаркі, то можна ў Міравы Суд.

### Аляксандру А.

1) Права на цёшчыну зямлю ня маеце;

2) Купіць можна, але трэба перш мець дазвол ад Земскага Ураду.

### Станкевічу.

1) Ці Ваш брат ёсьць сынам кабеціны, да каторай бацька пайшоў у прымы? калі сын яе, то маець права на спадчыну.

2) Часьць братоў, каторыя жывуць у Расеі, даходзіць ня можна.

3) Запытаньне незразумелае.

### Заполікам.

Калі паша Ваша ўласная, то можна прасіць суд, каб абніжыў ваду ў ставе.

# Паштовая скрынка.

**Крывічу**. Караспандэнцыю атрымалі. Скарыстаем. Пішэце болей.

**Карпачу.** Ад Вас усё атрымана, газэту высылаем. Пішэце, прысылайце.

**Гальяшу Прысутнаму**. Караспандэнцыі Вашай зьмясьціць ня можам. Трэба, апроч псэўданіма, падаваць свой адрас—для ведама рэдакцыі.

**Грам-ну в. Вялікая-Медзьвядка.** Караспандэнцыі „Пан Жывадзёр“ змясьціць ня можам.—Прышлеце свой адрас для ведама рэдакцыі.

**Аляксандру Гуніну**. Караспандэнтаў рэдакцыя не выдае. Калі чуецеся пакрыўджаным, то падавайце ў суд на рэдакцыю.

**Тутэйшаму** з Маладэчанскай гм.—Другой Вашай карэспандэнцыі не зьмяшчаем, бо факты, у ёй паданыя, мала цікавы. Пішыце болей.



Рэдактар-Выдавец: **Ян Марціневскі.**

**Друкарня Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.